# НАВІНЫ



**Акадэміі навук Беларусі**

*Заснавана ў кастрычніку 1979 года* ● *№ 2 (731)* ● *21 студзеня 1994 г.* ● *Цана 25 руб.*


*Што? — Дзе? — Калі?*

# ЗАПРАШАЕ «ПАЛІГЕН»

Будучай вясной, акурат напярэдадні жаночага свята, споўніцца год, як дзве сімпатычныя жанчыны, кандыдаты біялагічных навук, навуковыя супрацоўніцы Інстытута генетыкі і цыталогіі стварылі малое навукова-вытворчае прадпрыемства «Паліген». Раіса Мікалаеўна Стальмакова стала дырэктарам «Паліген», Алена Мікалаеўна Макеева — яе намеснікам.

— Мэта стварэння «Паліген», — адзначыла Раіса Мікалаеўна,— дапамагчы рэалізацыі навуковых распрацовак, якія нараджаюцца ў сценах нашага інстытута. Як вядома, частка іх звязана з вытворчасцю сельскагаспадарчай прадукцыі. Цяпер мы маем магчымасць прадаць яе ўсім, хто хоча есці смачную гародніну ці набыць якасны пасяўны матэрыял: цыбуля, напрыклад, мы працуем з таматамі. Атрымаўшы асноўныя вынікі па таматыны, рэалізуем потым гатовую якасную прадукцыю. Доследная база інстытута знаходзіцца ва Уручы, там жа размешчана цяплічная гаспадарка, дзе праводзіцца вялікая праграма па біятэхналогіі. Дзякуючы ёй, атрымліваем бязвірусную бульбу. Цяпер маем 50 яе гатункаў, якія ўжо ідуць у рэалізацыю, прычым, 14 з іх — у выглядзе мініклубняў. Гатункі карыстаюцца вялікай папулярнасцю і попытам. І хаця ўчасткі нашы невялікія, прыбытак мы ўсё ж маем.

Нашы супрацоўнікі атрымліваюць элітнае насенне таматаў гатунку «Вежа», гібрыда «Старт» і гібрыда агуркоў «Адоніс». Дарэчы, дачнікі пра іх добра ведаюць і ахвотна едуць да нас, на эксперыментальныя пляцоўкі, дзе і ідзе рэалізацыя прадукцыі. Партыі, зважаю, у нас невялікія, а вось чысціня насення вельмі высокая. І калі б была магчымасць пашырыць нашы плошчы, мы маглі б стварыць значную канкурэнцыю падобным дзяржаўным структурам.

Акрамя таго, зараз мы з'яўляемся афіцыйнымі прадстаўнікамі данецкай фірмы «Сінбіас», якая займаецца вытворчасцю хімічных рэактываў, што выкарыстоўваюцца ў біятэхналогіі і ў лячэбных установах.



Карыстаючыся выпадкам, запрашаю да супрацоўніцтва ўсе інстытуты біялагічнага і медыцынскага напрамкаў. Менавіта праз нас яны маюць магчымасць заказаць неабходныя хімрэактывы. Дарэчы, зараз мы заключылі дагавор з нямецкай фірмай «Сэрва», згодна з якім можна заказаць дэфіцытную «хімію» не за валюту, як было раней, а за нашы «зайчыкі».

Да размовы далучылася загадчыца аддзела навукова-інфармацыйных даследаванняў і рэалізацыі Інстытута генетыкі і цыталогіі АНБ Алена Мікалаеўна Макеева.

— «Паліген» таксама гатовы праводзіць экспертызу на генетычную актыўнасць новых і традыцыйна выкарыстоўваемых хімічных прэпаратаў, напаўняльнікаў, кансервантаў. На ЭВМ мы можам зрабіць генетыка-статыстычную апрацоўку, разлікі аптымальных севазваротаў, эканамічнага выкарыстання мінеральных угнаенняў і прэпаратаў хімічнай аховы раслін, вызначыць якасць харчовай і іншай біялагічнай прадукцыі.

Тут, безумоўна, трэба ўлічваць, што Інстытут генетыкі і цыталогіі мае моцныя навуковыя кадры, якія вырашаюць самыя складаныя задачы. Вучоныя-генетыкі сёння прапануюць аграрнікам-практыкам цэлыя тэхналогіі. Напрыклад, Ганна Мікалаеўна Палілава, доктар біялагічных навук, прафесар распрацавала тэхналогію атрымання гібрыднага насення пшаніцы на аснове выкарыстання цытаплазматычнай мужчынскай стэрыльнасці.

Усім вядомы хімічны прэпарат «Рызаплан», які з'яўляецца эфектыўным бактэрыялагічным прэпаратам для глебы. Дарэчы, распрацаваны ён вядучым навуковым супрацоўнікам кандыдатам біялагічных навук Аляксандрам Мікалаевічам Перабіцюком, а вядучым навуковым супрацоўнікам кандыдатам біялагічных навук Аляксандрам Пятровічам Ярмішыным — тэхналогія вырошчвання бязвіруснай бульбы.

Шматгадовымі намаганнямі супрацоўнікаў лабараторыі эксперыментальнага мутагенеза (заг. лабараторыі доктар біялагічных навук У. Г. Валодзін) створана высокаўраджайная ва ўмовах Беларусі форма яравой пшаніцы «Радыял». Мука, атрыманая з яе, адказвае ўсім самым строгім крытэрыям да яе якасці. «Радыял» ужо два гады запар вырошчваецца ў калгасе «Ленінская іскра» Аршанскага раёна. Аб яго папулярнасці сведчыць той факт, што насенне гэтага гатунку нават на камерцыйных цэнах закупляецца літаральна ў лічаныя гадзіны. Толькі вось у вучоных застаецца адно пытанне — як рэальна абараніць правы аўтараў на гэты гатунак і заканадаўча, і эканамічна.

З гэтымі і іншымі вучонымі «Паліген» заключае дагаворы (прыблізна на 15—20) аб супрацоўніцтве. У штаце малога прадпрыемства, акрамя нашых знаёмых, яшчэ бухгалтар Галіна Міхайлаўна Атрушкевіч і сакратар-рэферэнт Галіна Аўгустаўна Мартысь. Дарэчы, апошняя з'яўляецца яшчэ і перакладчыцай. І работы сёння ёй хапае, бо «Паліген» шукае партнёраў не толькі ў блізкім замежжы.

Калі загаварылі пра цяжкасці, жанчыны ў адзін голас адзначылі праблему з цяпліцамі. Ім, вучоным, яны патрэбны не толькі летам, а літаральна круглы год. А пра цэны на цяпло, ваду і г. д. сёння ўжо і заікацца страшна. Субяседніцы шчыра спадзяюцца, што можа хто адгукнецца на іх просьбу-прапанову — дапамагчы з месцам у цяпліцы. У сваю чаргу генетыкі гатовы выканаць паралельна і заказы спонсараў.

Алена Мікалаеўна на развітанне сказала: «...Выкарыстанне генетычных метадаў важна сёння літаральна паўсюдна. У інстытуце вывучаюцца генетычныя вынікі чарнобыльскай аварыі, да нас звярнуліся заолагі, каб мы прынялі ўдзел у праграме па захаванню беларускіх зуброў, ёсць у нас магчымасці на вырошчванне чаранкоў розных відаў цытрусавых і іншых раслін у прабірках... Адным словам, зараз існуе добрая тэндэнцыя больш цеснага кантакту з вучонымі іншых навуковых напрамкаў. У нас ёсць цікавыя ідэі, так што людзей, зацікаўленых у супрацоўніцтве з генетыкамі, запрашаем да нас. Упэўнена, не пашкадуеце...»

Людзі, якія звязаны з «Палігенам», працуюць не за традыцыйную «васьмёрку» у рабочым табелі. Прыходзіцца затрымлівацца да 10—11 гадзін вечара, у «сезонны» час самі навукоўцы займаюцца адгрузкай прадукцыі... Ды ці мала спраў знойдзецца ў дбайнага гаспадара! Але ж галоўнае,— лічаць мае новыя знаёмыя, — ёсць рэальная аддача ад іх навуковай працы.

**Запісаў Віктар ФІЛІПЧЫК.**

**НА ЗДЫМКУ: (злева направа) Р. М. Стальмакова, Г. А. Мартысь, А. М. Макеева.**

**Фота Мікалая БУДЧАНІНА.**

*Віктар КАВАЛЕНКА:*

# «ЛІТАРАТУРА СЁННЯ ПЕРАЖЫВАЕ КРЫЗІС ЗНЕШНІХ УМОЎ СВАЙГО ІСНАВАННЯ»

**Віктар Антонавіч Каваленка ў літаратурным свеце — асоба вядомая. Ведаюць яго не толькі як дырэктара Інстытута літаратуры Акадэміі навук, а і як аднаго з вядучых беларускіх крытыкаў, аўтара многіх публіцыстычных кніг. Цяжка, бадай, знайсці лепшага знаўцу роднай літаратуры. Гэтай тэме і была прысвечана мая гутарка з В. А. Каваленкам.**

***— Віктар Антонавіч, ці пагадзіцеся вы з думкай, што сёння беларуская літаратура знаходзіцца ў крызісе. Многія лічаць, што на Беларусі зараз амаль няма літаратараў сусветнага ўзроўню.***

— Не зусім пагаджуся. А калі пагаджуся, то пасля дадатковага ўдакладнення, якое значэнне мы з вамі укладваем у слова «крызіс». Літаратура сёння хутчэй за ўсё перажывае крызіс знешніх умоў свайго існавання. Гэта праўда. Публікавацца надзвычай цяжка, ганарары пісьменнікаў такія мізэрныя, што ўспрымаюцца як здзек з творчай працы. І яшчэ да крызісных з'яў трэба аднесці грамадскую незапатрабаванасць на беларускую кнігу, але гэтая з'ява ўзнікла не цяпер, а ў сталінскія і пасляcталінскія часы. Калі ж мець на ўвазе ўнутраны, ідэйна-эстэтычны крызіс усёй нацыянальнай літаратуры ўвогуле, то, мяркую, яго няма. Прарываюцца ў друк цікавыя творы, з'яўляюцца новыя імёны, пісьменнікі сталі смялейшымі як у мастацкай творчасці, так і ў публіцыстыцы (хоць поўнай свабоды слова ў нас яшчэ няма), не знізіўся, калі меркаваць па лепшых творах, і філасофскі патэнцыял беларускай літаратуры. Дык які ж гэта крызіс? Іншая справа, што пэўны душэўны дыскамфорт перажываюць асобныя пісьменнікі, якія залішне ахвотна паддаліся дыктату часу, які вымагаў прыстасавальніцтва. Прыстасоўваліся тады ў той ці іншай ступені ўсе, аднак не ўсе змірыліся з сітуацыяй унутрана.

Што датычыцца сцвярджэння, быццам у Беларусі зараз амаль няма пісьменнікаў сусветнага прызнання, то мне здаецца паказальным ужытае вамі слова «амаль». «Амаль няма» — значыць, яны ёсць. Таму не трэба кідацца ў змрочны песімізм. Вядома, хацелася б, каб агульны ўзровень беларускай мастацкай творчасці быў яшчэ вышэйшым, аднак жа класіка сусветнага значэння вырастае з густаты і творчай напружанасці інтэлектуальна-духоўнага жыцця народа, перш за ўсё — яго інтэлігенцыі. Да гэтага і трэба імкнуцца наступным пакаленням.

***— Як перажыла (ці яшчэ перажывае) наша літаратура пераход ад савецка-беларускай да нацыянальна-беларускай альбо проста беларускай літаратуры?***

— Думаю, рэзкага пераходу не будзе. У выразе «савецка-беларуская літаратура», ужытым вамі, я зрабіў бы акцэнт на слове «беларуская», а не «савецкая». Беларуская савецкая літаратура — працяглае звяно ў гісторыі нашай нацыянальнай літаратуры, і на гэтым трэба грунтавацца. Разуменне сучаснага моманту ў літаратурным развіцці як рэзкага адмежавання ад савецкага перыяду кідае ў нябыт такія выдатныя творы, як «Ціхі Дон» М. Шолахава — у рускай літаратуры і «Палеская хроніка» І. Мележа — у беларускай. А імі захапляецца свет. Баюся, каб разуменне «пераходу» не было апошлена вульгарным спрашчэннем, каб за пераходны рубеж не прымайся паказ людзей у духу таго ж сацыялістычнага рэалізму толькі са знакам наадварот. Няўжо патрэбен такі «пераход»? Пераход, калі ўжо карыстацца гэтым тэрмінам, адбудзецца, я ўпэўнены, на аснове ўсіх плённых традыцый, якія маюцца ў арсенале нацыянальнай літаратуры, не

(Заканчэнне на 2-й стар.).

## ДОБРЫЯ СПРАВЫ НЕ ЗАБЫВАЮЦЦА

У Інстытуце генетыкі і цыталогіі АНБ адбылося пашыранае пасяджэнне генетычнага семінара і вучонага савета інстытута, прысвечанае 90-годдзю з дня нараджэння найбуйнейшага беларускага генетыка, акадэміка П. Ф. Ракіцкага.

Ва ўступным слове акадэмік Л. У. Хатылёва, якая вяла пасяджэнне, нагадала прысутным асноўныя вехі творчага жыцця вучонага, у якім былі цяжкія выпрабаванні, асабліва гады, калі генетыка лічылася лжэнавукай.

У сваім дакладзе доктар біялагічных навук І. Б. Масэ правяла аналіз навуковых работ П. Ф. Ракіцкага, паказала іх уздзеянне на сучасныя навуковыя даследаванні інстытута.

З успамінамі аб Пятру Фамічу выступілі тыя, для каго ён быў настаўнікам і калегам па працы: член-карэспандэнт Украінскай акадэміі навук А. Ф. Стэльмах (Селекцыйна-генетычны інстытут, г. Адэса), доктар сельскагаспадарчых навук С. А. Пятрушка (Беларускі НДІ жывёлагадоўлі), доктар біялагічных навук М. А. Грыгаровіч (Інстытут анкалогіі), доктар сельскагаспадарчых навук У. Л. Дзенісевіч (Беларускі НДІ жывёлагадоўлі).

У. ТРАЦЦЯКОЎ.

# «ФОНД СОРОСА — БЕЛАРУСЬ»: ТРАНСФОРМАЦИЯ ГУМАНИТАРНОГО ОБРАЗОВАНИЯ В БЕЛАРУСИ

— так называется открытый конкурс, в котором могут принять участие учителя, преподаватели, ученые академических и отраслевых научных учреждений и организаций Беларуси и стран зарубежья.

**КОНКУРС ПРОВОДИТСЯ В ТРИ ТУРА.**

Применяется система грантов. Работа всех авторов, прошедших каждый тур, оплачивается. Открытый конкурс проводится Министерством образования Беларуси (Минск) при участии Фонда Сороса — Беларусь.

Целью конкурса является обновление системы образования Беларуси, создание комплекса учебных пособий, хрестоматий, справочников, словарей, практикумов, средств обучения, ориентированных на использование компьютерной и аудиовизуальной техники для высшей и средней школы по гуманитарным и социально-экономическим дисциплинам.

Конкурс проводится по следующим направлениям: **философия, социология, экономика, политология, правоведение, социальная работа, психология и педагогика, культурология, мировая и белорусская литература, белорусский язык, история Беларуси, национальная культура, экология, человек и общество, история искусства, дошкольное образование, начальная школа, образовательная технология, география.**

В конкурсе могут принять участие как отдельные авторы, так и авторские коллективы вузов и начальных учреждений Беларуси, а также зарубежные авторы из стран СНГ и других государств. Его организаторы предполагают отобрать по каждому виду пособий учебно-методического комплекса не по одной, а по несколько конкурсных работ, чтобы обеспечить альтернативность и вариантность преподавания дисциплин.

Конкурс анонимный, в связи с чем работы на конкурс должны быть представлены под девизом.

1. Конкурс заявочных материалов; 2. Конкурс рукописей; 3. Публикация конкурсных работ.

**СРОК КОНКУРСА ОДИН ГОД, НАЧИНАЯ С 1 ЯНВАРЯ 1994 ГОДА.**

Авторы, успешно прошедшие первый тур, получают грант на продолжение работы.

Учреждениям компенсируются возможные издержки, связанные с временным освобождением от основной работы авторов, получивших грант на конкурсе.

Окончательно подготовленные и прошедшие экспертизу конкурсных комиссий рукописи после завершения второго тура будут изданы пробным тиражом и направлены для апробации в высшие и средние учебные заведения Беларуси.

Все авторские права сохраняются за автором работы.

В дальнейшем предполагается тиражирование лучших работ на основании заявок, поступивших от вузов, школ и других учебных заведений, что обеспечивает создание рынка образовательных услуг и конкуренцию образовательной продукции.

Организацией, осуществляющей координационно-методическую работу, является Исполнительная дирекция программы «Трансформация гуманитарного образования Беларуси», в адрес которой, с пометкой «На конкурс», направляются все материалы от авторов.

**Адрес: 220027, Минск-27, пр. Скорины, 65, Политехническая академия, корпус 11 А, к. 503 «Фонд Сороса — Беларусь», тел./факс: 32-77-13.**

## ПОЛОЖЕНИЕ

### *ОБ УСЛОВИЯХ ПРОВЕДЕНИЯ КОНКУРСА УЧЕБНИКОВ, УЧЕБНЫХ МАТЕРИАЛОВ И МЕТОДИЧЕСКОГО ОБЕСПЕЧЕНИЯ ПО ГУМАНИТАРНОМУ ОБРАЗОВАНИЮ ДЛЯ УЧЕБНО-ВОСПИТАТЕЛЬНЫХ УЧРЕЖДЕНИЙ БЕЛАРУСИ*

1. Конкурс объявляется и проводится Министерством образования совместно с Фондом Сороса — Беларусь.

2. Целью конкурса является обновление системы гуманитарного образования Беларуси, создание новых поколений учебников, учебных пособий и формирование рынка разнообразной учебной продукции в области гуманитарного образования.

3. Конкурс является открытым, в нем принимают участие белорусские и зарубежные авторы, международные авторские коллективы ученых, методистов, учителей.

4. На конкурс принимаются рукописи учебников, учебно-методических комплектов, пособий для учителей и преподавателей дошкольных учреждений, общеобразовательных школ, педагогических училищ и вузов не только по традиционным предметам, но и по тем, которых нет в учебных планах.

Тематические рамки конкурса очень широки — будут рассматриваться любые работы, которые можно использовать для улучшения преподавания гуманитарных предметов в школе и педвузах, гуманизации предметов естественно-математического цикла, а также введения новых учебных предметов, связанных с такими областями, как **«Знания», «Личность», «Общество», «Культура», «Духовность», «Познание».**

5. Срок подачи заявки об участии в конкурсе заканчивается **16 апреля 1994 г.** и определяется по почтовому штемпелю.

**Все заявочные материалы представляются в 3-х экземплярах.**

6. Объем заявки не должен превышать четырех страниц машинописного текста, в котором необходимо предусмотреть:

1) название будущего учебного пособия и его предполагаемый объем,

2) проблемную область и учебный предмет,

3) конкретную возрастную группу и тип учебно-воспитательного учреждения, на которое оно рассчитано,

4) основные источники написания пособия.

7. Вместе с заявкой должны быть представлены:

1) Аннотация (1 страница).

2) Обоснование актуальности учебного пособия (1 страница).

3) Расширенный план-конспект рукописи (0,5—1 п. л.).

4) Одну-две пробных главы (не более двух печатных листов).

5) Сведения об авторах (домашний адрес, место работы, возраст, номера служебного и домашнего телефонов, направление научных исследований) **помещаются на отдельном листе.**

6) Каждый заявочный материал, в том числе и сведения об авторе, сопровождаются девизом.

7) Срок подачи материалов на конкурс: **1-й тур — 16 апреля 1994 г., 2-й тур — 14 июня 1994 г., 3-й тур — 7 марта 1995 г.**

К моменту окончания каждого тура конкурсная комиссия выносит решение по его итогам и оповещает всех участников конкурса. Грант первого тура предоставляется на 4 месяца. Грант второго тура предоставляется на шесть месяцев.

8. Итогом первого и второго туров конкурса является присуждение конкурсной комиссией грантов, итогом третьего тура — публикация пробным тиражом (до трех тысяч экземпляров), а для лучших рукописей — рекомендация к изданию массовым тиражом с грифом Министерства образования Беларуси.

9. Размер гранта определяется в каждом случае индивидуально в процессе собеседования с участием представителей Фонда Сороса — Беларусь и составляет в среднем 20 минимальных зарплат ежемесячно с учетом инфляции.

# ЖЫВЕ БЕЛАРУСКАЯ ТЭХНІЧНАЯ НАВУКА!

### КРЫХУ ПЕРАДГІСТОРЫІ

У спадчыну ад СССР Беларусі дастаўся магутны патэнцыял тэхнічных навук. На яго развіццё значны ўплыў аказала палітычнае процістаянне дзвюх сістэм, і таму беларуская тэхнічная навука была надта мілітарызаваная. Рэжым сакрэтнасці аддзяліў яе ад астатняга свету. Вынікі праяўляюцца дагэтуль. Спаборніцтва за рынкі збыту ў галіне стварэння тэхнічных устройстваў мы фактычна прайгралі. Нашу тэрыторыю запаланіла прадукцыя вядучых краін свету. На рынку камп'ютэраў у нас няма ніякіх шанцаў знайсці сваё месца. Мы паступова страчваем свае пазіцыі і на рынку праграмных сродкаў.

Навука былога Саюза была моцная сваімі тэарэтычнымі даследаванямі. Аднак у тэхнічных навуках асаблівых стымулаў паказваць свае вынікі на міжнародным узроўні ў нашых вучоных не было. Работа на ВПК цанілася значна вышэй і дазваляла атрымліваць усе ступені і рэгаліі, не будучы вядомым у навуковым свеце. У выніку нашы работы практычна невядомыя за мяжой. Беларускія ж вучоныя аказаліся яшчэ ў горшым становішчы. Справа ў тым, што дастаткова высокі імідж савецкай навукі пасля развалу СССР аўтаматычна перайшоў да Расіі. І беларускай навуцы прыйдзецца папрацаваць, каб «на роўных» увайсці ў сусветную супольнасць. Усё гэта абцяжарваецца яшчэ агульным станам навукі, які ніяк не спрыяе інтэнсіўным навуковым даследаванням.

### ШТО МАЕМ ЦЯПЕР

Мы маем замест навукі вялікай і магутнай дзяржавы навуку малой рэспублікі, да таго ж у стане эканамічнага крызісу.

Трэба адзначыць, што ўрад рэспублікі, калі на яго бюджэце павісла велізарная армія навуковых супрацоўнікаў, не кінуў іх на волю лёсу, а павёў даволі слушную палітыку. З 1992 г. у рэспубліцы адкрыліся новыя навукова-тэхнічныя праграмы, такія як «Інфарматыка», што дазволіла падтрымаць навуковыя калектывы. Аднак трэба ўсведаміць, што з-за інфляцыі гэта падтрымка аслабляецца. Большасць беларускіх прадпрыемстваў не настолькі моцная, каб даваць заказы вучоным. Расійскія прадпрыемствы (асабліва звязаныя з ВПК) за апошнія два гады значна скарацілі колькасць заказаў, і гэта тэндэнцыя працягваецца. У Расіі хапае сваіх вучоных, каб аддаваць заказы ў іншую рэспубліку. Да таго ж сваю справу робіць незалежнасць, свае грошы («зайцы»), таможня і іншыя фактары. Магчыма, да таго часу, калі эканамічны саюз з Расіяй будзе створаны, для вучоных усё будзе практычна скончана.

Надзея на тое, што Захад дапаможа нам у перабудове эканомікі (і навукі ў тым ліку), аказалася беспадстаўная. Сферы ж уплыву ў свеце падзеленыя, і Захад зусім не зацікаўлены ў магутных у навукова-тэхнічных адносінах суседзях на Усходзе. Трэба адзначыць, што пэўная дадатная работа на Захадзе вядзецца (ініцыятыва Еўрапейскай Супольнасці, НАТА, Фонд Сораса), аднак гэта занадта малая частка таго, што патрабуецца.

Усё гэта прыводзіць да моцнага аслаблення нашай навукі. Нізкая зарплата, слабая матэрыяльна-тэхнічная база ўжо прывялі да адтоку з навукі многіх здольных і таленавітых людзей (пераважна моладзі) у прыватныя і камерцыйныя структуры. Некаторыя з іх (невялікая частка) паехалі на Захад. І працэс ідзе далей, хаця ўжо на іншай аснове: тыя, хто хацеў пакінуць навуку, яе пакінулі, зараз ідзе ўжо вымушанае скарачэнне.

### МЭТЫ І ПЕРСПЕКТЫВЫ

Тэзіс, з якім прыходзіцца лічыцца:

Мы не зможам развіваць навуку ва ўсіх кірунках, якія былі ў магутным СССР і яшчэ застаюцца ў нас. Трэба развіваць толькі тыя кірункі, дзе ў нас ёсць магутныя навуковыя школы і вядомыя навуковаму свету вынікі.

Гэта не трэба разглядаць як нейкае адступленне ці здачу пазіцый, хаця ў выніку і адбудзецца скарачэнне шэрагу лабараторый і калектываў, якія не даюць прадукцыі патрэбнай якасці. Навука ўсіх краін развіваецца па падобным шляху. Напрыклад, Швецыя і Фінляндыя (блізкія да Беларусі па колькасці насельніцтва) развіваюць толькі даволі вузкія напрамкі тэхнічнай навукі, у якіх яны аказаліся ў ліку вядучых. Нават Італія, з яе 55-мільённым насельніцтвам, член Вялікай Сямёркі, развівае толькі тыя кірункі, дзе яна традыцыйна моцная. Так трэба рабіць і нам. Таму адна з найважнейшых задач навуковых устаноў — інвентарызацыя сваіх навуковых кірункаў і адбор толькі моцных і канкурэнтаздольных. Задача вельмі цяжкая, але кіраўнікі ўстаноў павінны зразумець, што, не вырашыўшы яе своечасова, можна ў выніку прывесці свой калектыў да краху.

Што ж трэба рабіць самім калектывам у цяперашніх умовах для выжывання, развіцця і магчыма, працвітання? Міжнародны вопыт (у тым ліку і мой) падказвае, што грошы на навуку даюцца за тры віды дзейнасці: а) за тэарэтычныя распрацоўкі сусветнага ўзроўню; б) за стварэнне канкурэнтаздольных прадуктаў (сістэм, устройстваў, праграм і г. д.); в) за вырашэнне канкрэтных заказаў для прадпрыемстваў.

Гэта значыць, што для выжывання і развіцця навуцы неабходна амаль ва ўсіх выпадках выдаваць вынікі высокага тэхнічнага ўзроўню, ды яшчэ ажыццявіць іх прызнанне і распаўсюджванне ў свеце.

Сяргей АБЛАМЕЙКА,
доктар тэхнічных навук,
загадчык лабараторыі
Інстытута тэхнічнай
кібернетыкі АНБ.

(Заканчэнне ў наступным нумары).

● СПАРТЫЎНЫЯ ВЕСЦІ

# Няўдалае рашэнне

Два гады доўжыўся канфлікт вакол дома, што на плошчы Свабоды, 9. У ім знаходзіцца дзіцяча-юнацкая спартыўная школа. На дом прад'яўляла правы рымска-каталіцкая суполка.

І вось выхад быццам бы знойдзены. Пастановай Савета Міністраў, узгодненай з прэзідыумам Савета федэрацыі прафсаюзаў Беларусі і прэзідыумам АНБ, спартыўная зала і некалькі памяшканняў Інстытута тэхнічнай кібернетыкі перадаюцца ў часовае карыстанне, да скапчэння будовы спарткомплексу «Спартак», уладальніку будынка Федэрацыі прафсаюзаў рэспублікі. Дзве тысячы юных спартсменаў пяройдуць сюды пасля рамонту! Будынак жа на плошчы Свабоды будзе перададзены вернікам.

Рэспубліканскі камітэт прафсаюза АНБ і спартсмены акадэміі заяўляюць пратэст супраць такога рашэння. У Акадэміі навук толькі дзве залы, і пазбавіць сваіх супрацоўнікаў адной з іх — несправядліва. Нават пры дзвюх залах мы не мелі магчымасці прыняць усіх жадаючых, пры адной жа спартыўная работа зусім спыніцца.

Лічу, што пры прыняцці рашэння здароўе супрацоўнікаў акадэміі не было прынята на ўвагу. Просім і патрабуем адмяніць рашэнне і знайсці іншы выхад з канфліктнай сітуацыі, які б задавальняў абодвы бакі.



## БАДМІНТОН І МІНІ-ФУТБОЛ — АКАДЭМІЧНЫЯ ВІДЫ СПОРТУ?

У апошні дзень прайшоўшага года ў спартыўнай зале Інстытута гісторыі праводзіўся VII традыцыйны навагодні турнір АНБ па бадмінтону. Спаборніцтвы праходзілі ў мужчынскім парным і адзіночным разрадах. У адзіночным пераможцамі сталі: С. Руткевіч (І месца), М. Сасімовіч (ІІ месца) і С. Апанасевіч (ІІІ месца). У парным разрадзе перамаглі: С. Апанасевіч, М. Філатаў (І месца), М. Сасімовіч, С. Руткевіч (ІІ месца), М. Асоўскі, С. Круглік (ІІІ месца).

Хочацца адзначыць энтузіязм і самаадданасць трэнера А. Зубца, які займаецца з супрацоўнікамі акадэміі не першы год. Спартсмены секцыі бадмінтону, якой ён кіруе, выступаюць на розных турнірах у рэспубліцы і краінах СНД. Напрыклад, М. Сасімовіч неаднаразова займаў прызавыя месцы ў турнірах СНД: І месца ў парным разрадзе ў Санкт-Пецярбурзе, І месца ў змешаным разрадзе (Гатчына), ІІ месца ў адзіночным і парным разрадах (Наварасійск), ІІ месца ў парным разрадзе (Еўпаторыя).

З 27 снежня 1993 г. зборная каманда АНБ па міні-футболу пачала ўдзельнічаць у XII зімовым традыцыйным турніры на прызы гарадскога клуба міні-футбола «Трэці тайм» і рэдакцыі газеты «Добры вечар» сярод каманд калектываў фізкультуры прадпрыемстваў. Каманду на грамадскіх пачатках трэніруе трэнер Б. Корзун (ІФЦЦ і ПП).

Будзем чакаць добрых звестак аб іх гульнях.

Падборку падрыхтавала Г. ЗАХАРАНКА, інструктар па спорту.

● ФОТАПОЗІРК



*Пяшчотнасць.* *Фотаэцюд М. Будчаніна.*

## КРОССВОРД



ПО ГОРИЗОНТАЛИ: 1. Песня из репертуара народной артистки СССР К. Шульженко. 4. Промысловая рыба. 9. Город, в котором находится Дом-музей А. Гайдара. 10. Движение воздуха. 11. Единица массы. 12. Картина М. Е. Грекова. 13. Водная трава. 16. Отточенная сторона лезвия. 19. Театральные предметы бутафории. 20. Музыкальный инструмент. 21. Кредитное учреждение. 22. Перевозочное средство. 26. Привал. 28. Искусственная насыпь. 31. Громкое восклицание. 32. Спортивное соревнование. 33. Благородный олень. 34. Животный воск. 35. Город в Канаде. 36. Верхний солирующий голос.

ПО ВЕРТИКАЛИ: 1. Часть фотоаппарата. 2. Персонаж романа А. Дюма. 3. Советский кинофильм. 5. Герой фильма «Путевка в жизнь». 6. Малая планета. 7. Приток Енисея. 8. Равновесие. 14. Изобретатель электродвигателя. 15. Ткань для вышивания. 17. Одна из улиц Москвы. 18. Железная дорога с конной тягой. 23. Стихотворение А. С. Пушкина. 24. Остров Филиппинского архипелага. 25. Тригонометрическая функция. 26. Ловчая птица. 27. Площадка для содержания животных. 29. Задвижка в печной трубе. 30. Складные очки.

## *ІМПАРТНЫ ГУМАР*

Урач, мастацтва якога было намнога лепшае за яго почырк, паслаў свайму пацыенту і сябру запрашэнне правесці з ім вечар, паабяцаўшы, што будуць музыка і іншыя забавы.

Сябар не прыйшоў і не прыслаў ніякіх тлумачэнняў. На другі дзень доктар пры сустрэчы запытаў, ці атрымаў ён запіску.

— Так, дзякуй! Я аднёс яе ў аптэку, лякарства прыгатавалі хутка, я адразу пачаў яго прымаць, і мне ўжо стала лепей!

* * *

Адзін багацей заказаў знакамітаму англійскаму мастаку Тэрнеру карціну, але, калі яна была гатова, адмовіўся плаціць назначаную цану.

— Такая сума — за квадратны ярд палатна і крыху фарбаў?!

— Ах, дык вам патрэбны былі толькі палатно і фарбы? Калі ласка, вось вам фарбы, а там, у вугле, бярыце палатно. Я з вас шмат не вазьму!

* * *

— Гэта намалявала мая дачка. Называецца «Заход сонца». Ведаеце, яна вучылася маляванню за мяжой!

— А, тады зразумела! Напэўна, гэта замежны заход сонца. У нас я нічога падобнага ў жыцці не бачыў.

Фелікс КРЫВІН

# Узмацняльнік інтэлекту

За суботнім кубкам чаю прафесар Лоры паведаміў, што ён вынайшаў узмацняльнік інтэлекту. Гэта такі парашок, што змешваецца з цукрам і прымаецца ўнутр разам з чаем.

Госці пасмяяліся, але калі падалі чай, ніхто не дакрануўся да цукру.

— Я п'ю без цукру,— сказаў літаратар Даўкенс.— У маім узросце салодкага лепш пазбягаць.

— Калі дазволіце, я лепш з варэннем,— сказаў доктар Фрайд.

— Як ваенны чалавек, я ўвогуле не п'ю чай,— сказаў маёр Стэнлі і падміргнуў з намёкам на сваё любімае пітво.

— У такім выпадку будзем піць каньяк,— гасцінна прапанаваў прафесар Лоры.— Ён у мяне таксама настояны на гэтым узмацняльніку.

І тут аказалася, што кампанія падабралася непітушчая. Доктар Фрайд увогуле ніколі не піў, літаратар Даўкенс ужо месяц як кінуў, а маёр Стэнлі, ваенны чалавек, кінуў толькі ўчора, і яму б не хацелася пачынаць усё спачатку.

— Лепш выкурым па сігары,— сказаў літаратар Даўкенс, і ўсе падтрымалі гэтую прапанову.

— Ну вось і вельмі добра,— сказаў прафесар Лоры.— У мяне якраз сігары прапітаны ўзмацняльнікам. Варта зрабіць пару зацяжак, і вы паразумнееце ў тысячу разоў.

Літаратар Даўкенс не стрымаўся:

— Паслухайце, прафесар, вы што, прымаеце нас за дурняў? Вас больш не задавальняе наш разумовы ўзровень?

— Ды не, Даўкенс, я не аднойчы пераконваўся ў вашым розуме, але ж паразумнець ніколі не шкодзіць.

— Магчыма, цывільнаму чалавеку — так, але не ваеннаму,— адсёк маёр Стэнлі.— Вы думаеце, палкоўнік Бромлі пацерпіць, каб маёр быў разумнейшы за яго? Мяне ж у адзін момант звольняць у адстаўку.

— А я застануся без чытачоў. Яны проста перастануць мяне разумець,— уздыхнуў літаратар Даўкенс.

— Вось іменна,— падтрымаў яго доктар Фрайд.— Калі дапусціць, што чалавек разумнейшы за малпу ў тысячы разоў, дык калі я паразумнею ў тысячу разоў, людзі будуць здавацца мне малпамі.

— А вы ім будзеце здавацца ненармальным, і яны засадзяць вас у вашу ж клініку! — зарагатаў маёр Стэнлі. Пры гэтым ён падумаў, што някепска было б папрасіць дробкі ўзмацняльніка для сына, які вось ужо чацвёрты год не можа вылезці з першага класа. Праўда, ён і так лічыць сябе разумнейшым за бацькоў, а калі яшчэ вып'е гэтай дрэні...

— Божа мой,— пакруціў галавой прафесар Лоры,— я заўсёды ведаў, што чалавека ў жыцці падпільноўваюць сотні небяспечнасцей, але ніколі не думаў, што для яго так небяспечна разумнець.

(З кнігі «Мільёны гадоў да кахання»).

ВЯСЁЛЫ УІК-ЭНД

# *Проста анекдот якісьці...*

Пасажырскі самалёт раптоўна пачаў губляць вышыню. Пілот кліча сцюардэсу:

— Растлумачце пасажырам, што самалёт адчувае перагрузку. Трэба, каб добраахвотнікі выпрыгнулі, інакш мы пацерпім аварыю.

Сцюардэса пайшла, а калі вышыня нармалізавалася, вяртаецца і дакладвае пілоту:

— Калі я растлумачыла пасажырам наша становішча, да мяне першым падыйшоў француз. Ён папрасіў шкалік віскі і з крыкам «Няхай жыве Францыя!» выпрыгнуў з самалёта. Потым падыйшоў англічанін. Ён папрасіў шкалік віскі і з крыкам «Няхай жыве Англія!» выпрыгнуў з самалёта. Потым да мяне падыйшоў рускі. Ён папрасіў сто грамаў гарэлкі і з крыкам «Няхай жыве Афрыка»! выкінуў двух неграў.

* * *

Цешча дае зяцю 10 тысяч рублёў і кажа:

— Круціся, як хочаш, але пасля смерці хачу ляжаць у Крамлёўскай сцяне.

На наступны дзень зяць прыходзіць і гаворыць:

— Цешча, круціся як хочаш, але заўтра ў 12 — пахаванне.

* * *

Час пік. У аўтобусе:

— Таварышы, адпусціце маё вуха!

Рэзкі боль і...

— Позна, таварыш, ужо пракампасціравалі!

* * *

Два сябра едуць у аўтамабілі з хуткасцю 150 кіламетраў.

— А што з намі будзе, калі зляціць кола?

— Не турбуйся, у мяне ёсць запаснае.

* * *

Бацька пытаецца ў сына:

— Што сёння было на ўроках?

— На хіміі вывучалі выбухныя рэчывы.

— А што заўтра будзеце рабіць у школе?

— У якой школе, тата?

* * *

Аўтаінспектар спыняе грузіна на «Волзе».

— Вашы правы?

— Калі ласка!

— Дарагі, дык гэта ж правы на кіраванне самалётам!

— Чаго прычапіўся? Якія былі, такія і купіў.

«НАВІНЫ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ»

Штотыднёвая газета Акадэміі навук Беларусі

Рэдактар Аля ШЫМАНОВІЧ

Адрас рэдакцыі: 220072, г. Мінск, вул. Ф. Скарыны, 1, пакоі 311, 313. Тэлефоны: рэдактара — 39-46-12, карэспандэнтаў — 39-54-51

Мінская фабрыка «Чырвоная зорка» МПВА імя Я. Коласа

Падпісана да друку 19.01.94 г. Зак. 1013. Тыраж 1250 экз.

Індэкс 64123

Пры перадруку просьба спасылацца на «Навіны АНБ»

Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не раздзяляючы пункту гледжання аўтара.

Аўтары апублікаваных у газеце матэрыялаў нясуць адказнасць за іх дакладнасць і гарантуюць адсутнасць звестак, якія складаюць дзяржаўную тайну.